

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

№ 11
1940 г.



Пятага кастрычніка адзначаўся трыццацігадовы юбілей грамадска-літаратурнай дзейнасці пісьменніка Змітрака Бядулі.

Змітрок Бядуля піша не толькі для дарослых. Ён вельмі любіць дзяцей і напісаў для іх шмат вершаў, апавяданняў, казак.

За выдатную працу ў галіне літаратуры совецкі ўрад узнагародзіў яго ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ
ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ




# КАПТУРНІЦА

З. БЯДУЛЯ

*Рыс. Эйдэльмана*

Маці сама шыла мне гарнітурчыкі. Бацьку і дзеду шыла штаны. Швейнай машыны не было. Ёй прыходзілася шыць рукамі. Галоўнай яе спецыяльнасцю былі каптуры. Яна майстравала каптуры для сялянак.

Аснову для каптуроў маці рабіла з простага палатна, верх—з featuresнастайных паркалёвых ласкуткоў. Аблямоўвала каптуры шоўкавымі істужкамі.

Зверху аздабляла каптуры дарожкамі з карунак. Карункі тырчэлі рубам, і каптуры нагадвалі дзівосныя кветкі—ці то павялічаныя рачныя лілеі, ці то агромністыя адуванчыкі. Для колераў і ўзораў фантазія каптурніцы мела прастор і разгон. На першы выгляд каптуры нібы рабіліся на адзін фасон. Але калі я добра прыглядаўся, дык не знаходзіў і двух аднолькавых. Кожны адрозніваўся чымнебудзь ад другога.

У гэтай сялянскай мадысткі не было люстэрка. Каб палюбавацца сваім творам, яна павінна была мець чыю-небудзь галаву. Галава знайшлася—мая. У працэсе работы маці прымервала каптуры на маёй галаве. Яна любавалася на каптур у анфас, у профіль і ззаду. Яна адыходзіла на некалькі крокаў, падыходзіла, заўважала неакуратнасці, знімала яго з маёй галавы, распорвала, зноў сшывала, зноў насоўвала мне на галаву і зноў праўрала на вока.

Старыя сялянкі хвалілі яе работу. Ківалі, прыцмоквалі губамі і дзівіліся:

— Не каптур, а кветка...

Мне апрыкрыла выконваць абавязак манекена. Але вызваляцца ад гэтага мне рэдка ўдавалася. Я цярпеў да тых часоў, пакуль мае равеснікі не пачалі мяне называць «каптурная галава». Мне прышлося спыніць штодзённы абход мястэчка, бо з-за кожнага вугла мне спявалі на розныя лады:

— Каптурная галава! Каптурная галава!

Я не ведаў, дзе схавацца ад сораму. Прышоўшы дамоў, я са злосці ўкраў пяток каптуроў, убіў перад матчыным акном на гародзе некалькі кійкоў і павесіў на іх каптуры на ўсю ноч. Раніцой я разбудзіў матку і сказаў ёй:

— Глядзі ў акно, каптуры выраслі на гародзе!



Маці ахнула. Кінулася мяне біць.

— Гэта-ж украсці маглі ўночы!—сварылася яна.

— Мяне хлопцы дражняць каптурнай галавой!—плакаў я.—Не хачу, каб ты адзявала каптуры на маю галаву! Не хачу!

— А есці хочаш?—гаварыла маці.—Як табе не сорамна... Быў такі разумны хлапец, а во скепціўся...

— Я зноў пачну кашляць і траціць прытомнасць,—страшыў я.

Маці была ў роспачы. Я збунтаваўся не на жарт. Не хацеў прымерваць каптуроў. Уцякаў з дому. Але мне стала шкада гэтай гаротніцы, якая на некалькі дзён перад гадавымі святамі або перад кірмашом сляпіла вочы цэлымі начамі—шыла каптуры, схіліўшыся перад невялічкай лямпачкай. Часта яе перамагаў сон. Яна засынала і пальцы калола іголкай.

— Што рабіць?—думаў я.

І вось каптуры на тычках на гародзе накіравалі мяне на трапную думку. Я пабег да столяра—да рыжавусага дзядзькі Янкі.

— Маці прасіла, каб вы зрабілі балванок для каптуроў,—сказаў я.

— Што? Я не разумею.

— Ну, балванок, каб прымерваць на ім каптуры. Балванок такі, падобны да чалавечай галавы.

— А-а-а!—здагадаўся Янка.

Ён узяў сасновы чурбанчык і пачаў майстраваць спачатку сякерай, а потым гэблем. Ён увесь час прыглядаўся да маёй галавы, каб надаць чурбанчыку патрэбную форму. Потым адрэзаў знізу роўна, каб чурбанчык стаяў на стале.



— Маці пыталася, колькі трэба плаціць?—сказаў я.

— Пяць капеек.

Я прынёс дамоў чурбанчык. Ішоў гародамі, каб ніхто не бачыў. Я паставіў чурбанчык перад маткай на стале, адзеў на яго каптур і сказаў:

— Во маеш замест маёй галавы. Трэба заплаціць столяру пяць капеек.

Маці глядзела і дзівілася.

— Уй, як добра! Ты нават не разумееш, як гэта добра...

Я пакрыўдзіўся:

— Каб не разумеў, дык не прасіў-бы Янку зрабіць.

З таго часу я вызваліўся ад прыкрага абавязку.





# ГАРОШАК

***Народная казка ў апрацоўцы Якуба КОЛАСА***

**Рыс. В. Ціхановіча**

Жыў калісь на свеце адзін гаспадар з жонкаю. Былі ў іх два сыны і адна дачка.

Рэдка ў каго былі такія працавітыя хлопцы, як гэтыя сыны. Ніколі яны не сядзелі без работы, а калі дома работы не было, то хадзілі ў чужыя землі.

Яшчэ больш цікава была іх сястра. Трудна было знайсці такую прыгожую, такую мілую дзяўчыну. Цяпер такія дзяўчаты напэўна і не родзяцца на свеце. Ну, а калі дзе і пападаюцца часам, то вельмі рэдка. І звалася яна Ясаня.

Адзін раз улетку, парабіўшы дома работу, задумалі браты пайсці ў заработкі.

— Калі мы не вернемся праз тры дні,—сказалі браты,—то няхай нам Ясаня прынясе есці.

— А як-жа я вас, браткі, знайду? Куды мне есці прыносіць?—спытала Ясаня братоў ужо на дварэ.

— Мы будзем салому па дарозе цярушыць. Па гэтай саломцы і знойдзеш ты нас.

Развіталіся яны з бацькамі, з сястрою.

Ідуць браты, саломку па дарозе раскідаюць, прыгаварваючы:

— Будзе наша Ясаня ісці і не саб'ецца з дарогі.

А ў тых мясцах жыў страшны змей. У яго быў жалезны язык, вочы, як жарнавыя каменні, і гарэлі агнём. Жыў ён у палацах. Тыя палацы былі зложаны з людскіх касцей.

Падслухаў змей, што казалі браты, даведаўся навошта салому цярушаць. Пазбіраў ён гэту салому і пакідаў яе па дарозе, што ў яго касцяныя палацы вяла.

«Будзе яна па саломцы ісці і ў мае палацы прыдзе», думае змей.

Так яно і сталася.

Праходзіць дзень, праходзіць другі,— няма братоў. І трэці дзень мінуўся, а іх няма.



На чацверты дзень сабралася Ясаня ў

дарогу братам есці нясці. Узяла яна хлеба, стравы і пайшла.

Ідзе яна ды ідзе, на саломку прызіраецца. А дарога ўсё глыбей у лес забірае. Лес цёмны, глухі, нават і неба не відаць. Ідзе Ясаня, і страшна робіцца ёй. «Куды-ж так далёка зайшлі яны?» думае дзяўчына. Вось пад вечар падыходзіць яна да касцяных палацаў ліхога змея. Паглядзела Ясаня, і сэрца яе замерла ад страху: вакол чалавечыя косці ляжаць. Што-ж тут рабіць? Кінулася яна бегчы назад. Бяжыць яна, бяжыць, ажно чуе—гудзе штосьці. Азірнулася—змей даганяе!

Схапіў яе змей і ў свае палацы нясе.

— Я цябе даўно чакаю,—кажа змей:—цяпер ты будзеш жыць са мною—ты будзеш маёю жонкаю.

Плакала, прасілася Ясаня, каб пусціў яе змей, але просьба не памагла.

Браты чакаюць яе на чацверты дзень. Чакалі, чакалі, ды так і не дачакаліся. Пайшлі яны дадому.

— Чаму-ж вы,—кажуць бацькам,—не прыслалі яды?

Напалохаліся бацькі.

— Як не прыслалі? Хіба-ж не было Ясані?

Спалохаліся і браты. Напэўна з Ясаняю ліха налучылася.

— Пайду шукаць яе,—кажа старшы брат.

Сабраўся і пайшоў.

Ідзе ён ды ідзе па той дарозе, што саломаю пацярушана, ды не прымеціў, што гэта не тая дарога, кудою ён з братам ішоў, і дайшоў да касцяных палацаў. Сустрачае сястру.

— Куды-ж ты, братка, зайшоў?—пытае яго Ясаня:—тут страшны змей жыве. З'есць ён цябе. Уцякай ты адгэтуль хутчэй.

— Калі ўцякаць, уцякайма разам,—кажа ёй брат.

— Не, братка: ён чуе мой дух, ён дагоніць і зловіць нас. А адзін ты можа ўцячэш.

Толькі што яна так сказала, чуюць—як загудзе нешта ды так моцна, што аж аглушыла іх. Глядзяць—аж то змей ляціць.



— Гэта мой брат прышоў да нас,—кажа Ясаня змею.

— Добра,—кажа змей:—вядзі-ж ты яго да мяне ў госці.

Увайшлі ў палацы.

— Ну, жонка,—гаворыць змей:—дай нам пасмакаваць бобу жалезнага.

Прынесла Ясаня жалезнага бобу. Змей як зачаў есці гэты боб, дык аж іскры пасыпаліся, а той, небарака, узяў адну бобіну ды чуць быў зубы сабе не паламаў. Пажаваў дый выплюнуў з рота бобіну.

Як закрычыць тут змей!

— Ты што-ж гэта дабром маім пагарджаеш? Я ем, а ты не можаш? Чым ты лепшы за мяне?

Сядзіць бедны госць, баіцца зварухнуцца.

— Хадзем—пакажу маё багацце!

Вывеў змей свайго госця на двор і павесіў яго на варотах, а потым прышоў да Ясані і кажа:

— Жонка! Я павесіў твайго брата, бо ён не хацеў есці майго бобу.

Залілася Ясаня горкімі слязьмі, але бядзе памагчы нічым не магла.

Праз дзень ці праз два вышла Ясаня на дарогу, бачыць—другі брат ідзе, шукаючы яе.

Такая-ж самая доля напаткала і другога брата.



Чакаюць бацькі сыноў дзень, чакаюць другі... Так чакалі з тыдзень, іх усё няма.

Аднаго разу досвіткам пайшла жонка гаспадара па ваду. Бачыць яна—коціцца па дарозе гарошак. Падняла яго, паглядзела ды і з'ела. І вось якая сталася з ёю праява: пачула яна, што той гарошак стаў у ёй расці. А тыдняў праз два радзіўся ў яе сын. І такі прыгожы ды такі вялікі, што проста дзівота! І як толькі радзіўся ён, дык зараз-жа і закрычаў:

— Мама! Дай мне есці!

А голас такі грубы-грубы, што ўсе папалохаліся.

Расце той хлопец не па днях, а па часінах і за месяц вырас такі вялікі ды і яшчэ з барадою, ажно бацька яго баяўся.

Думалі, думалі, як назваць яго, якое імя даць. І назвалі яго Гарошак.

Праз нейкі час кажа Гарошак бацьку:

— На табе, тата, шпільку, завязі яе да каваля, няхай выкуе з яе булаву ў сем пудоў.

Бацька думае сабе: «Ось дурны які хлопец: хоча каб са шпількі яму зрабілі булаву ў сем пудоў». Але сказаць аб гэтым сыну пабаяўся. Паехаў у горад, купіў сем пудоў жалеза, завёз да каваля.

— Зрабі ты,—кажа,—булаву, каб яна важыла сем пудоў.

Каваў, каваў каваль булаву, насілу выкаваў. Ускацілі на воз булаву. Прывозіць яе бацька да дому.

— На,—кажа,—сынок, табе булаву.

І скаціў яе на зямлю.

Узяў Гарошак тую булаву адною рукою ды як шыбануў яе ўгору, аж яна ў небе схавалася.

Шпурнуўшы гэту доўбню, ён пайшоў у хату, паснедаў, з бацькамі пагутарыў. А потым кажа:

— Ну, бацька, хадзем на двор, зараз булава вернецца.

Вышлі за хату на поле.

Паглядзеў Гарошак у неба.

— Бач, тата: унь булава ляціць!

Не паспеў бацька зірнуць, а булава калі загудзе!

Падставіў Гарошак калена. Як стукнецца аб калена булава! Трах і пераламалася папалам.

Пакруціў Гарошак галавою.

— Ты, мусіць, тата, не з тае шпількі булаву зрабіў.

Паехаў бацька зноў у горад, купіў сем пудоў ангельскага жалеза і зноў завёз

яго да каваля. Выкаваў каваль новую булаву.

Прывёз яе бацька дамоў.

Шпурнуў яе Гарошак угору, падставіў калена—булава толькі трошкі пагнулася.

— Ну, гэта булава добрая,—кажа Гарошак, павесялеўшы:—цяпер-жа, тата, пайду сястру шукаць.

Доўга не думаючы, узяў Гарошак сваю булаву і пайшоў проста да змея.

Пачуў змей вялікую сілу. Выскачыў на дарогу насустрач Гарошку. Зірнулі яны адзін на аднаго і маўчаць, як-бы папужаліся адзін аднаго. Недалёка і Ясаня стаіць. Гарошак дагадаўся, што гэта сястра яго.

Нарэшце, кажа змей Гарошку:

— Хадзем, браце, з'ямо трохі бобу.

Пайшлі ў палац, садзяцца за жалезныя столікі. Як толькі сеў Гарошак на свой столік, дык гэты столік так і пасыпаўся. Здзівіўся змей і яшчэ больш спалохаўся. Падаў госцю другі столік, яшчэ мацнейшы. Але і той сагнуўся пад Гарошкам. Пачалі есці жалезны боб. Елі, пакуль усяго не з'елі.

Змей аж пачырванеў, так яму моташна стала, што знайшоўся чалавек, яшчэ дужэйшы за яго. Круціўся ён, круціўся, а потым кажа:

— Хадзем, брат, агледзім маё багацце.

— Хадзем.

Прыходзяць у гумно. Гумно вялікае. Ад сцяны сцяны не ўбачыш. Ток выкладзен меддзю. Страха на жалезныя слупы апіраецца. А на гэтых слупах вісяць два чалавекі, даўно няжывыя.

— Што гэта за людзі ў цябе вісяць?— пытае Гарошак.

— Браты маёй жонкі,—адказвае змей.

Затросся Гарошак ад злосці і гневу.

— Ах, ты паганец, змяіная твая душа! То-ж ты маіх братоў павешаў!—загрымеў Гарошак ды як хапіў рукамі змея, як здушыў яго ды як стукнуў, дык змей па пояс уляцеў у медны ток. Схапіў тады Гарошак сваю даўбешку ды як гахнуў змея па пераносіцы, дык той увесь юхаю заліўся. Трэснуў яшчэ раз па галаве, і душа з яго вон.

Вярнуўся Гарошак дадому і сястру прывёў.






Чарнагорскага пісьменніка РАДУЛЕ СЦІЙЕНСКАГА

Рыс. М. Ваксера

Перасохла горла ў Тошы,
Захацелася Тошы напіцца.
Стаў ён шнырыць
Па ўсёй гаспадарцы.
Аж—
Пустыя біклягі і бочкі!
Заглянуў ён
Ў калодзеж глыбокі,
Нібы горла,
Перасох і калодзеж.
І стаў чухаць
Патыліцу Тоша:
«Утаміла
Праклятая смага!..»
— Узяў ён коўшык
Выразаны з ліпы,
Захінуўся ў пацёртую струку [1],
Паглядзеў на пахмурае неба
І пайшоў па казінай сцяжынцы,
Заспяваўшы турэцкую песню.
Так ідзе ён
І тыдзень і болей...
І тры тыдні
Па горах шагае.
На зыходзе
Чацвертага тыдня
Адшукаў ён
Возера лясное.
Прабіраецца к возеру Тоша,
Не пускаюць
Цэпкія голлі,
Ногі вязнуць
Ў балоце зялёным,
На вачах
Павуцінне павісла.
Ледзьве-ледзьве
Дабраўся хлапчына
І ўпаў
На бераг камышовы.
Ногі босы,
Струка ў лахмоццях,
Абшарпаны румяныя шчокі,
І далоні
Пакрыты вадырамі.



[1] Струка—плашч.

Так ляжаў ён
Да глыбокае ночы,
Камары
Наўкруг яго звінелі,
Бабачкі
На лоб яго паселі,
Чорны дрозд,
Маладажон шчаслівы,
Звіў гняздо
У кудрах яго змоклых,
І налезлі
Ў дарожную кайстру
Мураўі, кляшчы, вухавёрткі.
Стала неба
З сіняга жоўтым,
А з жоўтага
Цёмназялёным.
Закацілася
Спелае сонца,
І пагасла
Чырвоная зорка.
Пачарнела неба,
Стала цмяным.
Роўна-б ржавая шабля
стальная.
Чуе Тоша
Лёгкае дыханне,
Чуе Тоша
Сярэбраны рогат,
Ці то хвалі
Плешчуцца аб бераг,
Ці то вецер
Іграе камышамі,
Ці то зоры
Скрозь сон бармочуць
Аб няведамых краінах
занябесных...
Падымае галаву Тоша,
Праціpae
Апухшыя вочы.
Бачыць Тоша
Малочную ваду.
Срэбны бісер
Па вадзе рассыпан,
І купаюцца у возеры
студзёным
Пяцёра дзяўчынак-па-
дросткаў.
Плешчуцца бы дзікія
качкі,
Выціскаюць
Цяжкія косы,







Труць жэмчужныя спіны
Адна другой.
Кінуў Тоша
Ў возера камень,
Пырснула
Шкло вадзяное,
Пайшлі кругі
За кругамі,
І дзяўчынкі змеямі ўзвіліся,
Сталі змеямі з пурпурнымі
вачыма.
Нахінуўся к возеру Тоша,
Апусціў свой коўшык драўляны,
Зачарпнуў
Чароўнай вадзіцы,
Азірнуўся
І пайшоў назад ён.
Тоша йдзе
Па лясах і па балотах,
І праз горы шагае
Снегавыя,
Сцеражэ свой ліпавы коўшык,
Сцеражэ
Каштоўную вільгаць,
Кожную кропельку так лічыць.
Вось прышоў ён
Ў родную хаціну,
Выліў ваду
Ў кацялок чыгунны,
І насек дубовых паленняў,
Сekануў
Аб крэмень крэсівам
І ўспыхнулі полымем паленні.
Чуе Тоша
Дзяўчыны голас:
«Ай ды Тоша,
Неразумны Тоша!
Хіба ты зварыць мяне сабраўся
І ў катле чыгунным не
прыкмеціў?»
Толькі Тоша
Развесіў вушы,
А з катла,
Дзе вада закіпала,
Выпрыгнула
Маленькая змейка
З белай скурай,
З пурпурнымі вачыма.
Паглядзела змейка на Тошу
Расчыніла пасць
Шырэй неба,
Праглынула беднага Тошу.

Заадно
І Тошыну маёмасць:
І кажух,
І пасцельныя рэчы,
І каўры,
І сталы,
І пасуду,
Ятаганы [1],
Ружжа
І пістолі,
І кароў,
І коз,
І ўсіх баранаў,
І авечак.
Разнясло змяю,
Нібы гору,
А змяі і гэтага мала:
Захацелася ёй,
Ненасытнай,
Яшчэ пеўня глынуць на закуску,
Яркаперага
Пецьку-гарлана.
Толькі певень
Змяі не даецца.
Ён ўзляцеў
Над яе галавою,
Дзяўбануў у самае цемя
зладзейку,
І забіў яе
І выпусціў Тошу.
Паслаў за доктарам
Тоша.
І з'явіўся
Доўгавусы доктар,
Самы знатны доктар з Цецінне,
Спрактыкованы
У розных навуках.
Распароў ён
Змяінае бруха,
Ўскрыў нажом
Страўнік змяінь
І знайшоў унутры
Кун'ю шубу,
Сабалінае футра,
Шубу ды з персідскага барашка,
Шубу ды з лісы чорнабурай,
Яшчэ шубу з пацука-шыншылы,
Шубу з шчыпанай выдры,
Сівую бабровую шубу,
Шубу з скуры змяінай,
А ўсяго іх было шубаў восем.







Ён дастаў з страўніка
Два пакрывалы
Бялей снега,
Двух авец
І двух ягнят малочных,
Карову з буланым цялёнкам,
І свіную матку
З сысункамі.
Шубы новыя,
Як у магазіне,
А жывёла тлустая—
На славу.
Доктар скінуў
Сваю старую шубу,
Вельмі
З'едзеную моллю,
І надзеў
Бабровую на плечы
(Гэта было платай за работу).
Астатняе
Дасталося Тошы—
І жывёла,
І гаспадарка,
І шубы.
З той пары
Яму шчасце прываліла:
Завяліся
І дастатак
І грошы,
Пісталеты ў залатой аправе,
Гуслі, выкладзеныя перламутрам,
Новы дом
І жонка маладая.
Вось і ўся гісторыя Тошы.
Калі ты юнак,
Расталкуй мне,
Што магло гэта ўсё азначаць?
Калі ты
Тут нічога не цяміш,—
Ў рот вады набяры
І—ні гука.



[1] **Ятаган**—крывая шабля.



# Л. Н. ТАЛСТОЙ

Рэбяты! Хто з вас не ведае вялікага рускага пісьменніка Льва Нікалаевіча Талстога. Вы, мабыць, усе чыталі яго цудоўныя рэчы «Булька», «Тры мядзведзі», «Прыжок», «Акула», «Дзяўчынка і грыбы».

За сваё шматгадовае жыццё Леў Нікалаевіч Талстой напісаў многа апавяданняў, аповесцей, раманаў, як: «Васкрасенне», «Вайна і мір», «Казакі», «Хаджы-Мурат» і інш. Яго творы перакладзены на мовы амаль усіх краін свету.

Владзімір Ільіч Ленін у сваёй гутарцы з Аляксеем Максімавічам Горкім гаварыў, што Талстой—вялізны чалавек і вельмі вялікі пісьменнік.

Леў Нікалаевіч Талстой нарадзіўся ў 1828 годзе. Памёр 20 лістапада 1910 года.

У гэтым годзе працоўныя нашай краіны адзначаюць трыццаціголдзе з дня смерці свайго любімага геніяльнага пісьменніка.

## Леў, мядзведзь і лісіца





Леў і мядзведзь раздабылі мяса і пачалі за яго біцца. Мядзведзь не хацеў уступіць і леў не ўступаў. Яны так доўга біліся, што аслабелі абодва і ляглі. Лісіца ўбачыла паміж іх мяса, схапіла і ўцякла.

## Леў, воўк і лісіца

Стары хворы леў ляжаў у пячоры. Прыходзілі ўсе звяры наведаць цара, толькі лісіца не была. Вось воўк узрадаваўся выпадку і пачаў перад ільвом нагаварваць на лісіцу:

— Яна,—кажа,—цябе нізавошта лічыць: ні разу не зайшла цара наведаць.





На гэтыя словы і прыбегла лісіца. Яна пачула, што воўк гаворыць, і думае:

— Пачакай-жа, воўк, я табе адпомшчу.

Вось леў зарычэў на лісіцу, а яна і кажа:

— Не загадай караць, загадай слова сказаць.

Я таму не была, што часу не было. А часу не было таму, што па ўсяму свету бегала, у лекараў для цябе лякарства пыталася. Толькі цяпер знайшла, вось і прыбегла.

Леў і кажа:

— Якое лякарства?

— А вось якое: калі жывога воўка абдзярэш ды скуру яго цёпленькую надзенеш...

Як расцягнуў леў ваўка, лісіца засмяялася і ўцякла.

## Галкі і галубы





Галка ўбачыла, што галубоў добра кормяць,— выбелілася і ўляцела ў галубятню. Галубы падумалі спачатку, што яна такі-ж голуб, і пусцілі яе. Але галка забылася і закрычала па-галаччу. Тады яе галубы пачалі кляваць і прагналі. Галка паляцела назад да сваіх, але тыя спалохаліся яе з той прычыны, што яна была белая, і таксама прагналі.

## Качка і месяц





Качка плавала па рацэ, шукаючы рыбу, і за цэлы дзень не знайшла ніводнай. Калі прышла ноч, яна ўбачыла месяц у вадзе, падумала, што гэта рыба і нырнула, каб злавіць месяц. Іншыя качкі ўбачылі гэта і пачалі з яе кпіць.

З таго часу качка так засаромілася і забаялася, што, калі і бачыла рыбу пад вадой, яна ўжо не лавіла яе, і памерла з голаду.

## Лісіца і вінаград





Лісіца ўбачыла—вісяць спелыя кісткі вінаграду і пачала прыладжвацца, як-бы іх з'есці.

Яна доўга білася, але не магла дастаць. Каб дасаду заглушыць, яна кажа:

— Яшчэ зялёныя.

## Воўк і журавель





Удавіўся воўк косткаю і не мог выпярхнуць. Ён падазваў жураўля і сказаў:

— Нутка ты, журавель, у цябе шыя доўгая; усадзі ты мне ў глотку галаву і выцягні костку: я цябе ўзнагароджу.

Журавель усадзіў галаву, выцягнуў костку і кажа:

— Давай-жа ўзнагароду.

Воўк заскрыпеў зубамі ды і гаворыць:

— Ці-ж табе мала ўзнагароды, што я галавы тваёй не адкусіў, калі яна ў мяне ў зубах была?

## Сабака, певень і лісіца





Сабака і певень пайшлі ў таварышах падарожнічаць. К вечару певень заснуў на дрэве, а сабака прымасціўся каля таго-ж дрэва, паміж карэнняў. Як надышоў час, певень заспяваў. Лісіца пачула пеўня, пабегла і пачала знізу прасіць, каб ён сышоў да яе, быццам ёй хочацца выказаць пашану яму за тое, што ў яго голас добры. Певень сказаў:

— Трэба раней пабудзіць дворніка, ён спіць паміж карэнняў. Няхай адчыніць, тады я сыйду.

Лісіца пачала шукаць дворніка і забрахала. Сабака хуценька ўскочыў і задушыў лісіцу.




# Спрэчка

*(Армянская казка)*

Рыс. М. Ваксера

Жылі ў нас у гарах чатыры суседа— грузін, армянін, лезгін і рускі казак. Калісьці даўно яны паспрачаліся між сабой, хто з іх самы лепшы і з таго часу варта ім было сустрэцца, як справа даходзіла ледзь не да бойкі.

Аднойчы суседзі сустрэліся на рынку. Рускі казак стаў пасярод дарогі і закрычаў:

— Эй, вы! Я лепшы за вас усіх!

— Ну, навошта так пра сябе гаворыш, калі я лепшы!—запярэчыў армянін.

— Ты лепшы?—крыкнуў грузін.—Гэта я лепшы за ўсіх!—і ён схапіўся за кінжал.

— А ну-ка, хай хто-небудзь скажа, што я горшы,—засукаў рукавы лезгін і насунуў папаху на самыя бровы.







Яны спрачаліся і крычалі да таго часу, пакуль у справу не ўмяшаўся сляпы чангурыст.

— Сынкі,—сказаў ён,—чаго вы спрачаецеся. Вы гэтак ніколі не скончыце спрачацца.

— Дык што-ж нам рабіць?

— Кажуць, за той гарой ёсць вялікі горад. Там цяпер жыве Сталін—Сосо. Пайдзіце да яго і ён вырашыць вашу спрэчку.

Грузін, армянін, лезгін і рускі казак селі на коней і адправіліся ў шлях-дарогу дальнюю. Доўга ехалі яны праз горы, лясы і стэпы і ўсю дарогу спрачаліся між сабой аб тым, што скажа Сталін. Нарэшце, яны прыехалі ў вялікі горад. Бачаць на плошчы—свята, многа народу, а на сярэдзіне стаіць Сталін.

— Зрабі ласку, Сталін,—сказалі суседзі,—вырашы нашу спрэчку: скажы, хто з нас самы лепшы?

Сталін падумаў і падазваў грузіна.

— Скажы чалавек, што ў цябе ёсць харошае?

— Сакля ёсць, конь ёсць.

— А яшчэ?

— Ну, што ты пытаеш? Зразумела, віно ёсць. Белае, чырвонае віно ёсць.

— Зрабі так, каб тваё віно было ўсім вінам віно,—сказаў Сталін і звярнуўся да армяніна.

— А ў цябе што харошае?

— Што ў мяне? Ёсць у мяне баранчык. Харошы малады баранчык.

— Выгадуй такога баранчыка, якога свет яшчэ не бачыў,—сказаў Сталін і падазваў рускага.





— А ў цябе што?

— Хлеб у мяне.

— Зрабі свой хлеб бялей снега на вяршыні гары,—сказаў Сталін і запытаў у лезгіна.

— Ну, а ты што мне скажаш?

— Што я скажу? Ёсць у мяне цудоўная песня...

— Прыдумай такую песню, каб салавей пазайздросціў гэтай песні,—сказаў Сталін і звярнуўся да ўсіх:

— Калі зробіце, як я сказаў, прыходзьце ў госці і вырашу вашу спрэчку.

* * *

Мінула многа год і аднойчы ў самыя вялікія вароты ў Крэмлі пастукаліся чатыры чалавекі. У аднаго ў руках быў бурдзюк з віном, другі нёс на плячах баранчыка, а трэці трымаў на рушніку каравай хлеба, а чацверты трымаў чангур пад буркай.

— Сам Сталін зваў нас у госці,—сказалі яны і іх правялі да Сталіна.

— А, сябры,—сказаў Сталін, ці добрае ваша жыццё-быццё?

— Чаму-ж нядобрае? Вельмі добрае,— сказаў грузін.—Глядзі, віно прынёс... Эх, якое віно!

Тут армянін скінуў з плеч баранчыка і сказаў:



— Бачыў такога баранчыка? Не бачыў.

Казак паставіў каравай на стол, а лезгін крануў струны чангуры.

Сталін запрасіў гасцей да стала, але армянін сказаў:

— Пачакай, Сталін.

Ён зарэзаў баранчыка і прыгатаваў шашлык, як павінна быць у нас на Каўказе.

Калі госці селі за стол, грузін распароў бурдзюк і ўсім наліў віна.



Армянін паспытаў віно, зажмурыўся, прышчоўкнуў языком і прашаптаў:

— Ай, віно! Усім вінам віно!

— Налей па другой,—сказаў рускі, а лезгін моўчкі працягнуў сваю чарку.

— Еш на здароўе!—сказаў армянін і паклаў усім гарачага шашлыка.

Грузін паспытаў і здзівіўся:

— У роце растае! Яшчэ свет не бачыў такога баранчыка!

Больш ніхто нічога не сказаў. Ды як скажаш, калі рот поўны?

Рускі падняўся і разрэзаў каравай: усе ўбачылі, што хлеб быў бялей снега на вяршыні гары.

Тады лезгін узяў у рукі чангур і заспяваў.

Усе слухалі песню і маўчалі. Хіба можна гаварыць, калі спявае салавей?

Доўга гулялі ў гасцях у Сталіна грузін, армянін, лезгін і рускі казак. Сталін сядзеў за сталом разам з імі, піў віно, еў шашлык, слухаў песні і ўсміхаўся.

Запытаеш, чаму-ж ён усміхаўся?

А таму, што госці забыліся пра сваю спрэчку.

---

## НОЧКА



Ціхая ночка плыве над зямлёй,
Мяккія кryллі раскрыўшы над ёй.
Месяц, абліўшы прастор малаком,
Ціш і спакой сцеражэ навакол.
Рэчка срабрыстаю стужкай блішчыць,
Ў мяккай пасцельцы, спавіўшыся, спіць.
Ўецца туман па-над ёю, як дым.
Сыплюцца зоркі дажджом залатым.
Ціш. Ані гуку. Замоўкла зямля.
Слаўная ночка ідзе на палях.

Валодзя Захарэвіч.

# ПОШТА



— Мама, мама! Паштальён прынёс нам пісьмо ад бацькі. Хутчэй ідзі сюды—трэба распісацца.

Маці вышла і атрымала пісьмо. Яно сапраўды было ад бацькі.

Пеця аж танцаваў ад радасці. Бацька Пеці працаваў на далёкай поўначы. Ён пісаў, што хутка прыедзе дамоў. Маці пабегла да суседзяў расказаць аб гэтым, а Пеця сеў на канапу і задумаўся. Ён думаў аб тым, які шлях зрабіла бацькава пісьмо, пакуль дайшло да іх і з цікавасцю разглядаў маркі на канверце.

Хутка прышла маці. Пеця спытаў:

— Мама, ці заўсёды так даходзілі пісьмы і як гэта раней людзі перапісваліся адзін з другім—самалётаў не было, паяздоў таксама?

— А, сынок! Пошта мае сваю гісторыю. Трошкі пачакай, я ўпраўлюся па дому і табе раскажу.

Праз поўгадзіны маці пачала расказ:

— У далёкім мінулым пошты не было зусім.

Пасылкі і пісьмы перадаваліся спецыяльнымі ганцамі, якія пешшу ці на кані, на вярблюдзе або нават на сабачай вупражцы дастаўлялі адрасату перасылаемае. Гэтых бедных ганцоў у дарозе насцігалі завірухі і навальніцы. Вельмі часта яны станавіліся лёгкай здабычай галоднай стаі ваўкоў. Многія з іх гінулі, так і не дайшоўшы да адрасата. Але аб бедных ганцах мала хто клапаціўся—яны былі ў пераважнай большасці рабамі сваіх паноў. Толькі жонка і дзеці сумавалі аб загінуўшым без вестак бацьку.



Відавочна, што такой сувяззю маглі карыстацца толькі багатыя людзі.

Патрэбнасць у атрыманні звестак з далёкіх мясцовасцей і краін бярэ свой пачатак у глыбокай старажытнасці. Заснавальнікам пошты лічыцца персідскі цар Кір. У часы Кіра (558—485 годы да нашай эры) пошта старажытнай Персіі дасягнула вялікага ўдасканалення. Пасланні перадаваліся ганцамі па эстафеце, ад аднаго другому. Хуткасцю сваёй работы ганарылася і старажытна-рымская пошта.

У сярэднія вякі пошта знаходзілася ў руках магутных князёў. Як і ў старажытнасці, ёю магла карыстацца толькі невялікая група асоб.

Потым, калі пачалі развівацца сувязь і шляхі зносін, ганцоў пачалі паступова замяняць паязды, караблі, самалёты, тэлеграф і радыё.



Але яшчэ і зараз існуюць такія куткі на зямным шары, куды пошта заходзіць з вялікімі цяжкасцямі і не рэгулярна. У далёкіх паўночна-аўстралійскіх водах, паміж Аўстраліяй і Новай Гвінеяй, сярод каралавых рыфаў і падводных каменняў Тарэсава праліва ляжыць маленькі востраў Бубі. Тут змяшчаецца самы маленькі ў свеце акіянскі паштамт.

Высокая мачта ўказвае на месца, дзе знаходзіцца пошта. Каля асновы мачты ляжыць бочка з надпісам «паштамт». У гэтай бочцы знаходзяцца папера, ручкі і чарніла, запісная кніга і бляшаная каробка, напоўненая пісьмамі. Маракі і вандроўнікі, якія едуць каля гэтага вострава з Атлантычнага акіяна, пакідаюць тут сваю карэспандэнцыю на радзіму. Караблі, якія ідуць каля вострава Бубі ў адваротным напрамку, забіраюць накапіўшыяся тут пісьмы.

У бочцы хаваюцца запасы прэснай вады, марскіх сухароў і саланіны. Кожны карабль, праходзячы каля вострава, лічыць сваім доўгам папоўніць гэтыя запасы, якія могуць быць такімі каштоўнымі для закінутых сюды караблекрушэннем...

Пеця ўвесь час уважліва слухаў.

— Мама, а для чаго на пісьмы наклейваюць маркі?— дапытваў Пеця.

— Маркі, сынок,—адказала маці—з'яўляюцца знакамі паштовай аплаты за дастаўку пісьма адрасату.

Раней марак не было, замест іх былі маленькія кавалкі паперы—невялікія квіткі, якія і наклейваліся на пісьмо. Але гэта было нязручна. Іх трэба было чым-небудзь замяніць.

6 мая 1840 года ў Англіі з'явілася на свет першая паштовая марка. Гэта значыць, маркі існуюць усяго толькі 100 год. Вынаходцам іх быў вядомы лонданскі генерал-паштмейстар Роўланд Гіль.

Вопыт Англіі хутка перанялі і іншыя краіны. Першая марка ў Расіі вышла 10 снежня 1857 года.

Але паштовыя маркі з'яўляюцца не толькі знакамі паштовай аплаты.

Паштовыя маркі з'яўляюцца яшчэ веснікамі далёкіх краін, нямымі сведкамі войн і рэвалюцый, дакументамі дзяржаў. Яны з'яўляюцца, такім чынам, і гістарычнымі помнікамі.

Малюнкі на марках робяцца лепшымі мастакамі краіны. На савецкіх паштовых марках ты можаш убачыць партрэты найвялікшых геніяў сацыялізма—Маркса і Энгельса, Леніна і Сталіна, палкіх барацьбітоў за рэвалюцыю, саратнікаў вялікага Сталіна—Дзержынскага, Кірава, Фрунзе, вучоных і пісьменнікаў Мендэлеева і Талстога, Ламаносава, Пушкіна і Горкага, рад слаўных герояў Савецкага Саюза і другіх.

Па яркіх маляўнічых марках СССР можна прасачыць гісторыю сусветна-гістарычных дасягненняў краіны перамогшага сацыялізма, нашу барацьбу за пяцігодкі, чэлюскінскую эпапею, заваяванне Паўночнага полюса адважнымі савецкімі лётчыкамі і вучонымі.

Вось, сынок, якую гісторыю мае пошта.












## Кітайскія цені

Рэбяты, паглядзіце на малюнак і пасправбуйце зрабіць самі.



## Рэбус

Расшыфраваўшы рэбус, атрымаеце назву апавядання беларускага пісьменніка.



Склалі: Валодзя Хруцкі і Валодзя Ясючэня (Копыльскі раён)



Рыс. Васіль Новікаў. Крычаўскі раён, Каменская школа

Рэдактар А. Бярозкін. Афармленне М. Сяцкага. Адрас рэдакцыі: МІНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна, Мінск. 20.000 экз. Зак. № 2946. 2½ друк. арк. У4374.

Цана 30 кап.



# Жывое пудзіла

Р. Кавак



Што за пудзіла такое?
Чыкільгае, як жывое!



Чорт цыбаты! Страх глядзеці...
Напалохаліся дзеці.



Дрыжучы стаяць за плотам,
Праняло халодным потам.



Шарык выскачыў героем
Ды на пудзіла жывое.



Ірвануў ён пакрывала,
І страшыдла ў гразь упала.



За такія злыя жарты
Так табе, Пятрусь, і варта.